## УВАГА! Выпісвайце і чытайце часопісь беларускай моладзі УВАГА!

# „ШЛЯХ МОЛАДЗІ"

«Шлях Моладзі» ёсьць часопісяй выхаваўча-популярна-навукова-літэратурнай, прызначанай для старэйшае беларускае моладзі. Ідэолёгія яе народна-незалежніцкая. У «Шляху Моладзі» друкуюцца стацьці характару выхаваўчага, народна-беларускага, популярна-навуковыя, цікавыя весткі з жыцьця ўсяго сьвету, а перадусім з беларускага жыцьця, вядзецца багаты літэратурны аддзел і аддзел «Для нашых малодшых», у якім так-жа зьмяшчаюцца цікавыя і карысныя матэрыялы, а таксама разрыўкі і жарты. Выходзіць «Шлях Моладзі» акуратна раз на месяц, ужо ад 1929 году Друкуецца гражданкай (кірыліцай) і лацінкай. Выдае і рэдагуе «Шл. М.» саматугам, ідэйная група беларускае моладзі, сярод якое ёсьць маладыя беларускія друкары. Выдаўцы «Шляху Моладзі» ня гоняцца за заробкам на ім, але імкнуцца да таго, каб пашыраць сярод беларускае моладзі асьвету, народную сьведамасьць, будзіць яе да людзкога жыцьця, а так-жа, каб даць для моладзі хоць крыху, у меру сіл, добрае духовае стравы. Усе супрацоўнікі «Шляху Моладзі» ў Вільні, на правінцыі і загранніцай, сярод якіх ёсьць людзі з вышэйшай асьветай і з стажам грамадзкае працы, а так-жа шырока-ведамыя беларускія паэты і нават такія, што ледзь трымаюць яшчэ пяро ў руках, — працуюць ідэйна — бясплатна! Дзеля таго і падпіска на „Ш. М." ёсьць нізкай, бо ўсяго

### 2 залатоўкі ў год.

Высылку часопісі дарма аднак выдавецтва „Шл. М." рашуча выводзе з жыцьця, бо аплату падпіскі ўважае за абавязак кожнага чытача, тым больш, што сабраныя грошы йдуць на справу агульна-грамадзка-беларускую. Рэдакцыйная Калегія „Шл. Моладзі", знаючы цягу беларускае моладзі да кніжкі і с учаснае цяжкае палажэньне нашае вёскі, заўсёды стараецца даць магчымасьць кожнаму набыць некалькі добр. бел. кніжак і ўстанаўляе

## Прэмію для падпішчыкаў „Шляху Моладзі".

І так, хто заплаце адразу поўнасьцю гадавую падпісу на „Шлях Моладзі" на 1934 г. да 31 сакавіка гэтага-ж году ў суме 2 зл. і прышле 1 зл. на перасылку самой прэміі, той дарма атрымае 4 наступныя беларускія кніжкі:

1. Ad. Stankiewič — „Kastuś Kalinoŭski, «Mužyckaja Prauda» i ideja niezaležnaści Biełarusi".
2. „ " — „Dr. Francišak Skaryna pieršy biełaruski drukar".
3. P. Zaduma — „Kupalle" (apawiadańnie z žyćcia biełaruskaje moładzi) i
4. W. A. (Wincuk Adwažny) — „Biełaruskija Cymbały" (zbornik wieršaŭ).

(Кніжкі гэтыя ў прадажы каштуюць 3 зл.)

**З гэтае аказіі атрыманьня 4 кніжак і 12 нумароў „Шляху Моладзі" за 3 зл. павінен карыстаць кожны.**

Грошы трэба слаць звыч. пашт. пераказам на адрэс: Red. czas. „SZLACH MOŁADZI" — Wilno, ul. Zawalna 1 - 3.

УВАГА! Усім старым падпішчыка, прысланыя грошы будуць лічыцца за падпіску на 1934 г. Хто падпіскі не прышле да 31.III.1934 г. або не паведаміць калі ён яе прышле, таму высылка часопісі будзе стрымана.

Да ўсіх
падпішчкаў чытачоў і супрацоўнікаў
„Шл. Моладзі“.

Надрукаваную на адвароце абвестку просім па прачытаньню вывесіць дзесь на агульна-відочным месцы: напрыклад на рынку, вуліцы, каля царквы або касьцёла.

Адм. „Шляху Моладзі“.